ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

2 • 2017
люты

Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Віктар ЛОЎГАЧ
«Ці ж гэта суседзі?»
*Іранеска*
5

«Кнігарня «Вожыка»
Міхась МІРАНОВІЧ
«Перасмешкі»
*Пароды*
15

«Фельетонны майстар-клас»
Міхаіл БУЛГАКАЎ
«Як Бутон ажаніўся»
*Фельетон*
8-9

# Гумар «у форме»




Алег ГУЦОЛ.




Алег КАРПОВІЧ.




Тамара РАДАВАНАВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Аляксандр ШМІДТ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Знаходка



*Гумарэска*

Карэньчыкаў вырашыў змяніць месца працы, бо вельмі яно надакучыла. Некалькі год з ранку да вечара ўкладваў ён новенькія чобаты ў каробкі ды накіроўваў далей па канвееры, дзе іх падхоплівалі іншыя рукі і складвалі ў штабялёк. Нудота, пагадзіцеся? І вось Карэньчыкаў вычытаў, што ў адной саліднай і паважанай арганізацыі патрабуюцца спецыялісты ягонага профілю: укладваць і накіроўваць.

Прыйшоў у аддзел кадраў, прадставіўся і падаў дакументы. Новы начальнік, азнаёміўшыся з імі, змерыў Карэньчыкава з ног да галавы сур'ёзным, прыдзірлівым поглядам і заявіў:

– На вялікі жаль, вы нам не падыходзіце. Біяграфія, прама скажу, кволенькая, нецікавая.

– Ды... ды я... – памкнуўся сказаць нешта Карэньчыкаў.

– Так, і не пярэчце мне, – спыніў яго начальнік. – Усяго адно месца працы? Гэта ж ненармальна! Вы нічым не вылучаецеся сярод астатніх. Шэранькі чалавек. Пачытайце біяграфіі артыстаў або славутых спартсменаў – вось гэта аповед пра жыццё! А ў вас нават няма за што воку зачапіцца.

– Ды... ды я..., – хацеў зноўку нешта сказаць Карэньчыкаў, аднак яму ўсунулі назад у рукі дакументы. Маўляў, забірай, нам такія спецыялісты не патрэбны.

Прыйшоўшы дадому, Карэньчыкаў сеў за стол, цалкам перапісаў сваю біяграфію і на наступны дзень падаў разам з іншымі дакументамі ў іншую арганізацыю. Там начальнік прачытаў яе, расплыўся ў шырокай усмешцы і абвясціў:

– Бяром! Афармляйцеся – і на працу! Вось гэта біяграфія! Шык-бляск! Прыемна чытаць: «Курыць пачаў рана... у першым, здаецца, класе... Былі прыводы ў міліцыю... Уцякаў з урокаў... Ужываў піва... Нюхаў фарбу і ацэтон... Каб не пайшоў у тэатральны гурток, па мне б плакала турма... Працаваў качагарам, вартаўніком, пасвіў кароў, збіраў шклатару, быў кур'ерам...» Гэта ж тое, што трэба. Адразу відаць – цёрты калач! А то адныя саплякі да нас прыходзяць уладкоўвацца! Ні біяграфіі, ні шарму... Ідзіце хутчэй афармляйцеся і заўтра ж выходзьце! Вы наш чалавек! Сапраўдная знаходка!

*г. Гомель.*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Мікола ГІРГЕЛЬ.

**Алена КЕДА**

# Лісабонскі трохкутнік

*Фельетон*

Сяргей Падзееў быў вымушаны асцярожнічаць. Ён адразу напісаў у аб'яве: «На водгукі з умовамі пакупнікоў не адказваю». Хопіць і таго, што яму даводзіцца прадаваць кватэру на дваццаць працэнтаў ніжэй за рынычны кошт, бо яна перашкаджае яму канчаткова пераехаць з сям'ёй у Лісабон. Была ў аб'яве і яшчэ адна ўмова – абавязковая перадаплата. Толькі пасля пераводу авансу на рахунак мужчына згаджаўся паказаць жыллё. А абгрунтоўваў гэта тым, што знаходзіцца ў Лісабоне і не мае грашовай магчымасці прыязджаць кожны раз у Мінск дзеля людзей, якія толькі цікавяцца, прыцэньваюцца ці проста хочуць паглядзець.

Падзееў размясціў аб'яву ў інтэрнэце два месяцы таму. І за гэты тэрмін паспеў ужо «злавіць у сваю сетку» аднаго наіўнага чалавека. Тым самым, з мінімальнымі намаганнямі, Сяргей паклаў у сваю кішэнь пятнаццаць тысяч долараў. Але на гэтым не думаў спыняцца.

Другога пакупніка Падзееў чакаў нядоўга, праз некалькі дзён пасля першага «заробку» ён ужо ахвотна адказваў нейкаму Валерыю па электроннай пошце. Атрымаўся такі дыялог (С – Сяргей, В – Валерый):

В: Добры дзень, а ваша кватэра сапраўды выглядае так, як на фотаздымках?

С: Вітаю! Так, а як жа. У аб'яве самая дакладная інфармацыя!

В: Аднак я знайшоў іх на сайце агенцтва па нерухомасці «Кватэра мары». Вось спасылка: www.kvateramary.by

С: А, вы пра гэта! Агенцтва проста яшчэ не паспела выдаліць фотаздымкі са свайго каталога. Месяц таму я звяртаўся да іх, але безвынікова. Вырашыў, што прасцей скінуць цану і прадаць самастойна.

В: Дзякую за тлумачэнне. Разумееце, я не вельмі добра арыентуюся ў вашым раёне. Глядзеў карту горада, але так і не знайшоў дом № 88, дзе знаходзіцца кватэра.

С: Магчыма, карта неактуальная ці недакладная?

В: Вось і я так падумаў, таму вырашыў асабіста з'ездзіць і ўпэўніцца. Я знайшоў дамы № 82, 83, 84, 85 і 86, але не 88. Я абышоў усе двары, але ён знік, быццам у трохкутніку. Толькі не Бермудскім, а Лісабонскім...

У гэты момант Падзееў пачаў хвалявацца. Што рабіць: кінуць перапіску і не адказваць ці паспрабаваць далей ствараць легенду? Сяргей вырашыў прытрымлівацца ранейшага плана, таму напісаў: «Я не ведаю, што там з нумарамі дамоў і картамі. Выбачайце, у мяне няма часу весці з вамі доўгія размовы. Даруйце за прамалінейнасць, але ў іншых людзей, якія адгукнуліся на аб'яву, не ўзнікала падобных пытанняў. На дадзены момант два чалавекі абдумваюць умовы пакупкі і праз два дні павінны сказаць мне сваё рашэнне. Я разлічваю прадаць кватэру дастаткова хутка, таму, калі вы паспяшаецеся, то зможаце апярэдзіць усіх жадаючых. На працягу сутак пералічваеце аванс на мой рахунак – і я асабіста прыеду паказаць вам жыллё».

Амаль адразу прыйшоў адказ ад Валерыя: «Вы мне найдаражэйшы сеанс магіі ў гісторыі Беларусі – здолееце знайсці дом, якога не існуе? Квіток за 15 тысяч долараў? Гэта цана на тое, каб пабачыць геніяльнага штукара максімальна блізка?»




Падзееў засмуціўся: рыба не проста не заглынула прынаду, а ў шаленстве сарвалася. Ён вырашыў больш нічога не пісаць. Але праз некалькі дзён Валерый даслаў ліст на электронную пошту Падзеева са спасылкай на форум, дзе абмяркоўвалася іхняя перапіска. У тэксце былі і цытаты, і нават фотаздымкі паведамленняў.

Пасля гэта Падзееў усур'ёз задумаўся пра змену дзейнасці, але толькі да таго часу, пакуль не зазірнуў на сваю электронную пошту ізноў: некалькі новых паведамленняў пра жаданне набыць кватэру чакалі сваёй чаргі. А значыць, далёка не ўсе чыталі запіс Валерыя на форуме...

Такія, як Падзееў, будуць працягваць сваю крымінальную дзейнасць, пакуль ёсць людзі, якія вераць у існаванне альтруістычных прадаўцоў нерухомасці. Невялікі тэрмін на абмеркаванне, поспех – і прадавец разам з авансам знікае ў чарговым Лісабонскім трохкутніку. Але праз пэўны час ён з'явіцца зноў, шукаючы новую ахвяру, якая не задае нязручных пытанняў.

*г. Мінск.*




Мужчын прынята сёння шанаваць,
Аберагаць ад стрэсаў, з'яў прыродных.
Апошнім часам стала нават модным
Ў кватэры, быццам тых катоў, трымаць.



* * *

Не праяўляй ніколі, дружа, злосць,
Бо слову цёпламу сабака нават рады.
Ўратуе гэты свет не прыгажосць,
А дабрыня, павага і спагада.



* * *

Здавалася, зрабіў я адкрыццё!
Напраўду ж вопыт паўтарыў ранейшы:
Глядзіш зусім іначай на жыццё,
Як робішся старэйшы і мудрэйшы.



* * *

Узрост такі — сябе я берагу,
Усё часцей звяртаюся да Бога.
Яшчэ даволі многае магу,
Але чамусь не хочацца нічога...



* * *

— Здароўю вашаму, бабуля, я здзіўляюся,
Параіць лекі нават не магу.
— Але чамусьці, доктар, задыхаюся,
Калі ўслед за аўтобусам бягу...



* * *

Не п'ю гарэлкі, ад сябе ганю нуду,
Здаровы лад жыцця заўжды вяду.
Пляткараць людзі: «Штосьці з ім не так,
Напэўна, моцна захварэў, бядак».



* * *

Хто з нас не ведае эфекту «даміно»?
Дык ёсць яшчэ адзін — эфект «паліцы».
Рукой зачэпіш злёгку штось адно,
І тут жа пачынае ўсё валіцца.



* * *

Да практыканта лепей не трапляць,
Ні да цырульніка, ні да ўрача зубнога,
Бо рызыкуеш потым не пазнаць
Ў люстэрку, дружа мой, сябе самога.



* * *

У бор прыйду — там ёсць чаму здзівіцца,
Лясныя пікнікі цяпер у модзе.
Ды не магу ад думкі адчапіцца:
А ці патрэбен чалавек прыродзе?



* * *

Жыццё прыносіць многа нечаканасцей,
Яго не спрагназуеш на гады.
Памылкі падсумоўваеш у старасці,
А робіш іх тады, як малады.

**Антон АНІСОВІЧ,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Путчына.*




Абмеркаваць — зняць меркі.

Здань — падатак.

Лянота — музычны твор.

Маскіраваць — скіраваць да мас.

Паклёпнік — бондар.

Пошчак — аплявуха.

Працяжнік — цягнік.

**Даслала Ірына САСНА,**
*Жлобінскі р-н,*
*в. Пірэвічы.*

Пожня — жняя.

Поклад — заначка.

Поплаў — водны круіз.

Прайдзісвет — вандроўнік.

Прыпарваць — сватаць.

Прыпечак — спёка.

Разводдзе — скасаванне шлюбу.

Рулетка — жанчына за рулём.

Сталярства — застолле.

Схімнік — хімік-лабарант.

**Даслала Соф'я КУСЯНКОВА,**
*Рагачоўскі раён,*
*в. Лучын.*

# Анекдоты

Гель для душа ў якасці падарунка — гэта добры спосаб прымусіць чалавека думаць пра вас, калі ён голы.

* * *

Забыўся ўчора ката пакарміць. Раніцай прачынаюся, а ён чымсьці грукоча на кухні... Напэўна, гатуе.

* * *

Калі дзяўчына кажа: «Мне ў хлопцах падабаецца пачуццё гумару», гэта не значыць, што трэба спрабаваць жартаваць, гэта значыць — трэба смяяцца з яе жартаў.

* * *

Калі вас ведаюць толькі з добрага боку — не круціцеся!

* * *

— Што ты больш любіш — віно ці жанчын?

— Гэта залежыць ад года вырабу...

* * *

Чаму грошы заканчваюцца, калі застаецца яшчэ так шмат дзён месяца?

Нарэшце купіў яхту. Цудоўна глядзіцца на палічцы!

* * *

Спіс спраў ката:
1) Крычаць, каб пакармілі
2) З'есці палову міскі
3) Гарлапаніць проста так

* * *

«Цяжка ў вучэнні? Лёгка ў баі!» — павітаў ваенкам адлічаных за непаспяховасць студэнтаў.

* * *

У купэ вагона пажылая жанчына звяртаецца да атлетычнага складу спадарожніка:

— Малады чалавек, вы не маглі б вызваліць для мяне ніжнюю паліцу?

— Магу! Вам у якім купэ?

## Філалагічныя замалёўкі

Правільнае афармленне зявак.

Ён пачуў паўзу.

Выкарыстоўваюць халастыя кулі.

У гэты дзень актывізуюцца духі тагасветнага свету.

Крывяносныя пасудзіны.

Дарогу яму загадзіў натоўп чытачоў.

Ездзілі на рыбалку, канешне, неаднойчы, але аднойчы ездзілі менавіта так, як ездзілі тады.

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ,**
*г. Мінск.*




Алег ПАПОЎ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

**Віктар ЛОЎГАЧ**

# Ці ж гэта суседзі?

*Іранеска*



— Андрэй, кажаш, новыя суседзі ў цябе з'явіліся? Гэта ж вельмі добра! Заўжды можна ў іх падтрымку знайсці, — зрабіў выснову Рыгор, выслухаўшы невялікі аповед сябра. Яны выпадкова сустрэліся ў парку і вырашылі падзяліцца апошнімі навінамі.

— Памыляешся ты, Рыгорка, — сумна зазначыў сябра. — Хутчэй яны, куркулі, мой галаўны боль.

І стаў Андрэй характарызаваць новых суседзяў:

— Той, што злева пасяліўся, напэўна, хапуга і скнара. Штодня нешта на машыне ў двор завозіць! Няйнакш дармовае ці ўвогуле крадзенае. А каб выпіць са мной, з бутэлькай гарэлкі ў госці зайсці — дык не: непітушчым сябе ставіць. Маўляў, алкаголь разбурае асобу чалавека. А я якім быў, такім і застаўся. Хоць і выпіваю кожны дзень.

Сябры крыху памаўчалі. Андрэй працягнуў:

— Гэта яшчэ што! Сусед, які справа жыве, здаецца, так і зыркае сваімі вачыма на жанчын. Бабнік, адным словам. Я нават сваю жонку да маці на тыдзень адправіў. Кабета яна ў мяне прыгожая, з іскрынкай. Хто ведае, што ў суседа за думкі ўзнікнуць могуць. Ну, а насупраць жыве багацей. Такога толькі за краты! Мае свой бізнес — трымае цяпліцы, дзе вырошчвае агуркі з памідорамі. Ужо трэцюю іншамарку сабе купляе! Хіба ён так многа зарабляе? І хоць бы хто з іх зайшоў з пляшкай гарэлкі, пасядзець і паразмаўляць пад добрую закусь. Эх...

Рыгор маўчаў, каб не выдаць свайго здзіўлення. Пазіцыя сябра выклікала ў яго непаразуменне. А Андрэй яшчэ больш расхваляваўся, ускочыў з лаўкі, пачаў хадзіць узад-уперад. Ды выпаліў:

— Ведаеш, Рыгорка, правучу я ўсіх іх! Закідаю скаргамі ў міліцыю, пракуратуру, падатковую інспекцыю, што не па кішэні жывуць, што крадуць. Бо ці ж гэткімі павінны быць суседзі, га?..

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Пётр КОЗІЧ.




Алег КАРПОВІЧ.




# Запрашаем за стол… перасмешак!

*Разам з навагоднімі віншаваннямі рэдакцыя атрымала сёлета ад свайго пастаяннага аўтара і сябра з саракагадовым стажам Міхася МІРАНОВІЧА прыемны падарунак: новую кнігу пад назвай «Перасмешкі», што пабачыла свет напрыканцы 2016 г. у выдавецтве «Медысонт». Змест яе складаюць літаратурныя пароды – жанр, упадабаны многімі творцамі, але падуладны далёка не ўсім. Нашы спадзяванні на сустрэчу з індывідуальным аўтарскім гумарыстычным стылем, які пазнаецца нават без подпісу прозвішча, цалкам апраўдаліся. У выключна добразычлівай манеры, інтэлігентна і ў той жа час гарэзліва Міхаіл Канстанцінавіч гуляе са словамі і сэнсам, сваволіць з сюжэтам – а ўсё для таго, каб мы ўсміхнуліся, паглядзеўшы на пэўны твор з зусім іншага боку. Не высмеяць, а пасмяяцца – такі, на нашу думку, дэвіз новай кніжкі. Прынамсі, мы ўсім рэдакцыйным калектывам менавіта гэтым і займаліся, гартаючы старонкі выдання. Чаго, шаноўныя чытачы, і вам жадаем!*

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Дзеля чаго?..

*...дзеля бясконцага чакання*
*я адмаўляюся ад вас.*

*Раіса БАРАВІКОВА*

Бывае,
Што дзеля кахання
Жанчыны могуць
Кінуць нас.
Але вось каб
Дзеля чакання –
Пра гэта чую
Першы раз!



## Мой шлях

*Мой шлях вядзе мяне дахаты*
*Праз боль, ману, праз гвалт*
*і страты,*
*Праз здраду – жонцы і сябрам,*
*Праз сто, праз дзвесце, трыста*
*грам...*

*Анатоль ДЭБІШ*

Я скіраваў
Свой шлях дахаты,
Але сустрэліся
«Рабяты»...
І гэты самы
Шлях-гарэзнік
Мяне прывёў
У выцвярэзнік.






## Боязь вышыні

*Быў на Ай-Петры і Эльбрусе*
*і ў горы іншыя хадзіў,*
*ды вышыні я ўсё ж баюся,*
*як больш нічога у жыцці.*

*Анатоль ЗЭКАЎ*

Паэце,
Хіба, весялішся?
За нос, магчыма,
Водзіш нас?
Ты кажаш,
Вышыні баішся, –
А як жа трапіў
На Парнас?



## Ню і меню

*Хай сабе ва ўзросце ты*
*і цана ўжо грош,*
*зіркаеш, зайздросцячы,*
*на дзяўчат усё ж.*

*Анатоль ЗЭКАЎ*

Па пляжы
Што бадзяешся,
Бы па выставе
Ню?
Як есці
Не збіраешся –
То не глядзі
Ў меню!..



## Не белы свет

*Даўно засела думка ў галаве:*
*А белы свет зусім не так жыве.*

*Мікола МЯТЛІЦКІ*

Даўно засела
Думка ў галаве:
А белы свет
Зусім не так жыве.
Яшчэ ж хачу зрабіць
Я вывад смелы,
Што не такі ўжо
Гэты свет і белы.



## Шчаслівыя людзі

*Шчаслівыя людзі, што ведаюць*
*мала*
*Пра свет, у якім яны сёння*
*жывуць.*

Віктар ШНІП

Чытаў зборнік вершаў –
І ясна мне стала,
Пра гэта маўчаць
Не магу, скажу ўслых:
Шчаслівыя людзі,
Што ведаюць мала
Сучасныя вершы
І аўтараў іх!..



## Звычка

*Мне сягоння здалося, што выпіта*
*шчасце да дна*
*І на дне – анічога, хоць соладка*
*быццам пілося.*

Мікола ШАБОВІЧ

Не магу перайначыць
Паскудную звычку сваю:
Гэтаксама, як жлукціць
Прапойца са смакам гарэлку –
Так я шчасце да дна,
Да апошняе кропелькі п'ю,
Анічога сабе
Не пакінуўшы на апахмелку.

## Трэба – значыць, трэба!



*Жанчыну трэба любіць*
*Заўжды – ўзімку і ўлетку.*
*Жанчыну трэба любіць,*
*Як чмель – палявую кветку.*

Яўген ХВАЛЕЙ

Жанчыну трэба любіць
У горадзе, вёсцы, мястэчку.
Жанчыну трэба любіць,
Як шэры драпежнік – авечку.
Жанчыну трэба кахаць
Уранку, удзень, сярод ночы.
Жанчыну трэба кахаць,
Калі нават і не захоча!..




Дурныя думкі бываюць у кожнага, але толькі разумны іх не выказвае.
*Вільгельм Буш, нямецкі паэт і мастак*

Каханне – гэта дзіўны фальшываманетчык, які ўвесь час ператварае не толькі медзякі ў золата, але і золата ў медзякі.
*Анарэ дэ Бальзак, французскі пісьменнік*

Жаночая здагадка больш дакладная, чым мужчынская ўпэўненасць.
*Рэд'ярд Кіплінг, англійскі пісьменнік*

Кінуць у жанчыну камень можна толькі ў адным выпадку: калі гэты камень каштоўны.
*Дон-Амінада, рускі пісьменнік*

Жаніся, нягледзячы ні на што. Калі трапіцца добрая жонка, будзеш выключэннем, а калі дрэнная – філосафам.
*Сакрат, старажытнагрэчаскі філосаф*

Шчаслівы шлюб – гэта шлюб, у якім муж разумее кожнае слова, якое не сказана жонкай.
*Альфрэд Хічкок, брытанскі і амерыканскі кінарэжысёр*

Сакрэт – гэта тое, што ўсім расказваюць паасобку.
*Ванда Блоньска-Вольфарт, польская журналістка*

Здароўе – гэта калі кожны дзень баліць у іншым месцы.
*Амерыканскае выслоўе*

Ніколі не прадказвайце: калі прароцтва памылковае, ніхто гэтага не забудзе, калі яно правільнае, ніхто пра гэта не згадае.
*Джош Білінгс, амерыканскі пісьменнік і камедыянт*




Аляксандр ПЯТРОЎ.




**Міхаіл БУЛГАКАЎ**

**(1891—1940)**

*Мабыць, не кожнаму вядома, што рускі пісьменнік, драматург, тэатральны рэжысёр і акцёр Міхаіл Афанасьевіч Булгакаў, знакаміты на ўвесь свет як аўтар раманаў «Майстар і Маргарыта», «Белая гвардыя», аповесці «Сабачае сэрца», свой творчы шлях пачынаў менавіта як фельетаніст. Упершыню заявіўшы пра сябе на старонках перыядычных выданняў у 1921 годзе, Булгакаў развіваўся ў такіх жанрах, як аповесць, апавяданне, фельетон, п'еса, пісаў інсцэніроўкі, кінасцэнарыі, оперныя лібрэта. Друкаваўся ў газетах і часопісах «Гудок», «Рабочий», «Медицинский работник», «Россия», «Возрождение», «Красный журнал для всех», «Накануне» і інш.*

*«Вожык» з задавальненнем прапануе вам пазнаёміцца з адным з фельетонаў майстра!*



## Як Бутон ажаніўся

*Фельетон*

*У кіраванні Паўднёва-Заходніх правізіёнкі выдаюць толькі жанатым. Халастым — дулю. Значыцца, трэба жаніцца. Прычым кіраванне будзе выконваць ролю сваццi.*

*Рабкар № 2626*

*А ці не думае пан жаніцца?*
*М. В. Гогаль «Жаніцьба»*

Чыгуначнік Валянцін Аркадзьевіч Бутон-Нецалаваны, чалавек упарта і настойліва халасты, з'явіўся ў адміністрацыйны аддзел кіравання і ветліва раскланяўся з правізійным начальствам.

— Вам чаго-с? Бач, які вы гальштук зладзілі — гарошкам!

— А як жа-с. Правізіёначку прыйшоў папрасіць.

— Так-с. Ажаніцеся.

Бутон здрыгануўся:

— Як гэта?

— Вельмі проста. ЗАГС ведаеце? Пойдзеце туды, скажаце: так, маўляў, і так. Кахаю яе больш за ўсё на свеце. Аддайце яе мне, у адваротным выпадку кінуся ў Днепр або застрэлюся. Як вам больш падабаецца. Ну, зарэгіструюць вас. Дакуменцікі ейныя захопіце, ды і яе саму.

— Чые? — спытаў зялёны Бутон.

— Ну, Вараньк, скажам.

— Якой... Вараньк?..

— Машыністкі нашай.

— Не хачу, — сказаў Бутон.

— Дзівак. Жадаючы дабра табе кажу. Падумай сваёй галавой. Размераны лад жыцця будзеш весці! Ты цяпер што па раніцах п'еш?

— Піва, — адказаў Бутон.

— Ну, вось. А будзеш піць шакалад або какава!

Бутона ледзь не званітавала.

— Ты паглядзі на сябе ў люстэрка Кіравання Паўднёва-Заходніх чыгунак. На каго ты падобны? Гальштук, як матылёк, а кашуля брудная. У штанах гузіка няма — гэта ж бязладдзе халасцяцкае! А ажэнішся — вочы не паспееш прадзерці, тут перад табой жонка: не жадаеце чаго? Як тваё імя, імя па бацьку?

— Валянцін Аркадзьевіч...

— Ну, вось, Валюша, значыцца, або Валюн. І будзе табе казаць: ці не трэба табе чаго, Валюн, ці не трэба другога, Валюша, можа, кавы, Валюту — тое, Валюту — іншае... Ажно ашалееш!... Не будзеш ведаць, у раі ты ці ў Паў.-Зах. чыг!

— У яе зуб устаўны!

— Вось дурань, а божухна. Зуб! Ды хіба зуб — рука або нага? Тым больш гэта залаты ж зуб! Вось дзівак, яго ў крайнім выпадку ў ламбард можна закласці. Адным словам, пішы заяву аб уступленні ў законны шлюб. Мы цябе і блаславім. Праз год заві на акцябрыны, вып'ем!

— Не хачу! — закрычаў Бутон.

— Ну ладна, бачу, вы ўпарты. Вам хоць кол на галаве чашы. Як заўгодна. Прашу не затрымліваць занятага чалавека.

— Правізіёнку дайце.

— Не!

— На якой падставе?

— Вам не дазволена.

– А чаму Пцюхіну далі?

– Пцюхін жанаты!

– Значыцца, мне без правізіі з голаду здыхаць?

– Як заўгодна, малады чалавек.

– Гэта што ж такое атрымліваецца, – замармытаў Бутон, змяняючыся ў твары. – Мне трэба або жыцця пазбавіцца з голаду, або волі маёй каштоўнай?!

– Вы не крычыце.

– Бярыце! – зароў Бутон у істэрыцы, – жаніце, вядзіце мяне ў ЗАГС, ешце з кашай!! – і стаў рваць на сабе кашулю.

– Кур'ер! Кліч Вараньку! Таварыш Бутон будзе рабіць ёй прапанову рукі і сэрца.

– А чаго ён вые? – запытаўся кур'ер.

– Ад радасці ашалеў. Перамена жыцця ў казённым доме.

*«Гудок», 28 мая 1925 г.*

**Пераклад з рускай Наталлі КУЛЬГАВАЙ.**




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег КАРПОВІЧ.




Андрэй СЛУЦКІ.

# Міхасю УЛАСЕНКУ — 80!




*У сатыры класік ён — наш Міхась Уласенка!*

*Багаты жыццёвы вопыт, назіральнасць, дасціпнасць і своеасаблівая «задзірыстасць» — усё гэта паспрыяла станаўленню і развіццю літаратурнага таленту Міхася УЛАСЕНКІ, аднаго з самых адметных творцаў у галіне сатыры і гумару. Будучы пісьменнік і журналіст у юнацтве шмат падарожнічаў, толькі паездкі былі не экскурсійныя, а працоўныя: служба на Балтыйскім флоце, цалінныя землі Казахстана, Сібір, будаўніцтва Брацкай ГЭС... Гэты досвед быў не лішнім пры асваенні іншага віду дзейнасці: пасля вяртання на Радзіму Міхаіл Аляксандравіч пачаў працаваць літсупрацоўнікам у Крычаўскай раённай газеце, і з таго часу яго лёс непарыўна звязаны з літаратурай і публіцыстыкай.*

*Нашым чытачам творца вядомы як неперавершаны майстра «кароткага» жанру. Яго кампактныя па форме і трапныя па змесце эпіграмы і мініпародыі, часам вострыя ды іранічныя, а часам і добразычлівыя — вынік арыгінальнага аўтарскага бачання рэчаіснасці ва ўсёй яе будзённасці і парадаксальнасці. Кніга сатыры і гумару Міхася Уласенкі «Дробязі жыцця» (2005) — найлепшы доказ таму, што пра самае важнае можна сказаць коратка, і гэта будзе вобразна, запамінальна, а да ўсяго — яшчэ і смешна.*

*Зычым нашаму сябру бадзёрасці і творчага плёну, а чытачам прапануем порцыю фірменных гумарыстычных мініяцюр.*

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

## Аўтаэпіграма

Ты на Парнас не пніся, Міша,
Цябе там толькі нестае...
Паэт не той, хто вершы піша,
А той, хто кніжкі выдае.

## Мініяцюры

Чалавечы век караткі:
Час нясецца, год бяжыць...
Мары ж аб жыцці салодкім
Замінаюць проста жыць.

* * *

Так вучылі педагогі,
Так прапісана ў вяках:
Не трымаюць цябе ногі,
То трымай сябе ў руках.

* * *

Я на жыццё не наракаю,
Прышчэміць, дык бяру крэдыт.
Багацце нас не распускае,
Але ўзмацняе апетыт.

* * *

Апанталі міні-тэмы,
Сціплы творчы мой улоў.
Я пісаў бы і паэмы —
Нестае патрэбных слоў.

* * *

Каханне часам, што прастуда:
Калі не лечыш — нейкім цудам
Раптоўна пройдзе, нібы ў сне,
І нават сэрца не кране.

* * *

Да нараканняў я глухі —
Прывычка шматгадовая.
Забыць мінулыя грахі
Дапамагаюць новыя.

* * *

Хоць з большага мне шанцавала,
Пазбегнуць не ўдалося зла...
Каб маладосць усё спазнала,
Яна б і ў старасці змагла.

* * *

На свет санліва пазіраю,
Ён — для начальства і кантролю.
Ва ўласным лёсе я іграю
Адну прыгодніцкую ролю.

* * *

Яшчэ жывы пакуль,
Ды радасці — ні знаку:
Я лёс свой валаку,
Як панцыр — чарапаха.

* * *

Фірма праект зацвярджае,
Скрозь прапановы гучаць...
Чамусь многа той абяцае,
Хто й мала не можа нам даць.

* * *

Ён, мастадонт сярод пісак,
Нас павучаў падчас палемік:
Тварыць, маўляў, патрэбна так,
Каб зразумеў і акадэмік.

* * *

Без сціпласці і без сарказму
Спяшаюся сябе хваліць:
Хапае мне энтузіязму
Любую справу заваліць.

*г. Горкі.*




**Віктар БОКАЎ**

## Рамантызм

Ў якую прорву не кідаецца
Мужчына часам з-за жанчын.
Ён з розумам тады не раіцца,
Бо ў галаве – туман адзін.
Ды жарсць, сляпая і абложная,
Згубіла многа небарак...
«Вяду амуры асцярожна я», –
Стары прызнаўся халасцяк.

А я халодным шэрым вечарам
З цудоўнай німфай (без заган!)
Ў нізіне, месяцам падсвечанай,
Імклівы закруціў раман.
Цяпер пакутую са спінаю,
Прыдбаў, напэўна, рэўматызм.
Кахацца лепей за адрынаю,
Бо выйдзе бокам рамантызм!

## Мудрасць дзівакоў

Нішто так не псуе твар, як яго адсутнасць.

*З кнігі «Займальная касметалогія».*

* * *

У кожнага мужчыны павінна быць права хадзіць налева.

*З «Правіл дарожнага руху» княства Лясота.*

* * *

Вецер перамен часцей за ўсё гуляе ў кішэнях.

*Мараканскі метэаролаг Ж. Тара.*

* * *

Тыя, хто дасягнуў залатога дна, любяць скардзіцца, што плаваюць на мелкаводдзі.

*Жарт каракумскіх вадалазаў.*

**Прыняў па факсу Я. ТАРАСАЎ.**

**Пераклад з рускай Веранікі**



# Чаму сабакі брэшуць на катоў, а каты знішчаюць мышэй?

*Паводле чэшскай народнай казкі*

Чалавек, гаспадар усіх жывых стварэнняў на свеце, дазволіў сабаку суправаджаць яго ў дарозе, вартаваць дом і гаспадарку і пры ўсялякай справе дапамагаць. Сабакі нямала ганарыліся гэтымі правамі, а каты ім моцна зайздросцілі. І тады склікалі каты раду і вырашылі адняць у сабак гэтыя правы. Падлавілі момант і ўкралі грамату з сабачымі правамі, запісанымі на пергаменце, ды схавалі ў кладоўцы пад кучу рыззя.

А мыш, якая бегала ў пошуках ежы, пергамент знайшла і з радасцю да сясцёр сваіх пабегла сказаць, якая важная грамата ім трапілася. Сабраліся тут і мышы на сваю раду, сталі меркаваць, як бы і ім такія правы займець. Старэйшая мыш кажа:

– Мілыя мае сёстры, давайце з'ядзім пергамент з тымі важнымі правамі, вось яны пры нас і застануцца, і ніхто іх не адыме. Лепш і прыдумаць нельга.

Мышы ўзрадаваліся і тут жа прывілеі сабачыя з'елі да апошняга кавалачка.

Прайшоў некаторы час, сабралася сабачая рада, папрасілі ахоўніка пергамента прад'явіць яго для агляду. Нічога не паробіш, давялося ахоўніку прызнацца, што каштоўны пергамент укралі каты. Накінуліся сабакі на катоў, каб тыя па-добраму сабачыя правы вярнулі.

Палезлі каты пад рыззё – няма пергамента. Тады яны схапілі мышэй і сталі патрабаваць, каб вярнулі, бо ніхто, акрамя іх, не мог знайсці пергамент пад рыззём. А дзе ж мышам пергамент той узяць, калі яны яго ўжо з'елі?

Вось з той пары сабакі і каты ў лютай варожасці паміж сабою жывуць. Сабакі нідзе спуску катам не даюць. А каты з-за гэтага пакляліся мышэй лавіць.

Так і стала на свеце: сабакі брэшуць на катоў, а каты знішчаюць мышэй.

**Па-беларуску пераказаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*






# І смех і грэх

*Міні-фельетон*

Ніхто, мабыць, не будзе спрачацца, што смех — адна з найважнейшых эмацыйных патрэб. Мець пачуццё гумару карысна для здароўя, бо яно не дае распачынацца дэпрэсіі. Але жарты бываюць розныя і разумеюць іх далёка не паўсюль...

Напрыклад, у сталічным метрапалітэне. І не таму, што няма ў супрацоўнікаў падземнай чыгункі пачуцця гумару. Гэта іхні прамы абавязак. Ды ці ёсць прычына давяраць пасажырам, якія кідаюць жартачкі пра бомбу ў кішэні? А што, калі гэта станецца праўдай? У такім выпадку смех можа адгукнуцца плачам.

Напэўна, вы таксама чулі хоць раз у навінах пра падобных жартаўнікоў. Іх было так шмат, што зараз цяжка ўзгадаць, з каго пачалася лавіна гэтых няўдалых выхадак. Напрыклад, у сярэдзіне снежня мінулага года двух падлеткаў спынілі на станцыі «Трактарны завод» для праверкі ручной паклажы (службы бяспекі сталічнага метрапалітэна заўсёды «даймаюць» пасажыраў такімі аглядамі, за што трэба ім шчыра падзякаваць). Адзін з хлопцаў вырашыў пасмяяцца:

— Ну што, сябра, даставай са свайго заплечніка бомбу.

Жарт выйшаў так сабе: на станцыю адразу ж выехалі супрацоўнікі міліцыі. Прыбыўшы на месца, яны накрылі заплечнік лакалізатарам выбуху і выклікалі сапёрна-піратэхнічную групу. На шчасце, бомбы там не было. Хлопец, які не пераставаў панічна апраўдвацца, паўтараў, што гэта быў «усяго толькі бяскрыўдны жарт». Але міліцыянеры справядліва вызначылі яго як ілжывае паведамленне пра пагрозу. Пакаранне за гэта адпаведнае: штраф або зняволенне тэрмінам да сямі гадоў. Метрапалітэн — аб'ект павышанай небяспекі. Такія жарты могуць выклікаць у свядомасці грамадзян паніку і страх, а гэтага дапускаць нельга.

Яшчэ адзін падобны выпадак адбыўся на тыдзень раней. Усё ішло па ўжо знаёмай нам схеме: студэнт аднаго са сталічных ВНУ на станцыі «Пралетарская» пажартаваў з супрацоўнікам метрапалітэна, заявіўшы, што нясе з сабой бомбу. Потым — дарэмныя апраўданні, міліцыя, штраф.

Аднак суровая мера ў выглядзе сямі гадоў зняволення ўздзейнічае не на ўсіх: штомесячна рэгіструецца па некалькі выпадкаў ілжывых паведамленняў у метро. І гэта, як кажуць, і смех і грэх.

**Алеся НІКІФАРАВА,**
*г. Віцебск.*



Юрый МІХАЙЛАЎ.




Алег ПАПОЎ.

# Чорны гумар

Алег КАРПОВІЧ.

Тайскі масаж
СПА-САЛОН
Масаж твару

Алег ГУЦОЛ.

Там да цябе нейкі казёл прыходзіў…

Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Донарская кроў з малаком

Павел ГАРАДЦОЎ.

Аляксандр ПЯТРОЎ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## «Спрыцыцыт»

*З натуры*

Калі я толькі пачынала працаваць вясковай доктаркай, прыйшла да мяне на прыём адна бабуля. Мы з ёй пазнаёміліся, пагаварылі пра жыццё, дзяцей, агароды. А потым яна і кажа:

– Ты, даражэнькая, дай мне парашкоў ад павышанага ціску, бяссонніцы, болю ў сэрцы і галаве.

Я адчыніла сваю аптэчную шафу і паклала перад бабуляй «Раўнацін», якім у тыя далёкія гады здымалі высокі ціск, «Экстракт валяр'янкі» для лепшага сну, а таксама «Карвалол» і «Цытрамон», што любілі ўсе мае бабулі. Але твар у пацыенткі выцягнуўся, яна здзіўлена глянула на мяне і канстатавала:

– Ты яшчэ не навучылася лячыць людзей! Мне патрэбен «Спрыцыцыт»! Я як вып'ю на ноч два парашочкі, дык у мяне і ціск да нормы вяртаецца, і сэрца не баліць, і галава яснее. А галоўнае, сплю пасля іх да самай раніцы.

Я задумалася: пад гэтыя апісанні не падыходзіў ніводны медыкамент, які быў на той момант у маім аптэчным кіёску. Я пачала распавядаць бабулі, што няма ў прыродзе такога лякарства і ніколі не было. Але яна ўпэўнена заяўляла: «А ў той доктаркі, што працавала да цябе, заўсёды быў у продажы «Спрыцыцыт».

Таму я пачала паказваць бабулі тыя лекі, якія мелі падобныя назвы:

– «Стрэптацыд»?

– Не! – адмоўна матляе галавой бабуля.

– «Стрэптаміцын»?

– Зноў не тое!

– А можа, «Сінтаміцын»? – не здавалася я.

Пацыентка злавалася:

– Ды не! Кажу табе: «Спрыцыцыт»!

Я паклала на стол перад вачыма бабулі ўсе гэтыя лекі і напружана спытала:

– Добра, што з гэтага вам выпісвалі?

Старая весела засмяялася:

– Дык вось жа тыя парашкі, а ты кажаш, што няма! – і схапіла са стала... пакецік «Стрэптацыду».

Тут ужо заўсміхалася я:

– Бабуля, гэта ж парашкі ад інфекцый! Калі горла забаліць ці прастуда якая здарыцца, тады яны дапамагаюць.

А старая ўсё сваё:

– Маладая ты яшчэ, нявопытная. Не ведаю, што там у вашых кніжках напісана, а вось мне «Спрыцыцыт» ад усяго дапамагае! Дай мне пяць пачак. А праз два тыдні прывязі яшчэ штук дваццаць.

Калі бабуля пайшла, я доўга не магла суняць смех. Гэта ж якой павінна быць сіла ўнушэння, каб столькі хвароб вылечваў звычайны парашок ад інфекцый?

**Валянціна**
**БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*в. Радкава, Салігорскі р-н.*



Алег КАРПОВІЧ.

## Прага да прыгажосці

Кожны чалавек, чым бы ён ні займаўся па жыцці, павінен цягнуцца да прыгожага. Можна любавацца цудоўнымі краявідамі, хадзіць на мастацкія выставы ці захапляцца класічным кінематографам. У любым выпадку, гэта робіць нас лепшымі.

Так лічылі і прадстаўнікі адной злачыннай групоўкі, што зарабляла на пастаўцы какаіну, экстазі і гашышу з Расіі ў Беларусь. У ходзе следства супрацоўнікамі ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС было выяўлена месца захоўвання партыі псіхатропаў. Калі праваахоўныя органы ўварваліся ў гараж жыхара аграгарадка Ждановічы, яны знайшлі 552 таблеткі экстазі, амаль 250 грамаў какаіну, звыш 300 грамаў гашышу і ... карціну знакамітага расійскага мастака Івана Іванавіча Шышкіна «Лес. Елкі». Дарэчы, гэтае палатно было выкрадзена з Вязнікоўскага гісторыка-мастацкага музея ў 2013 годзе невядомымі асобамі з Уладзімірскай вобласці Расіі. Мяркуецца, што яго хацелі нелегальна прадаць патэнцыйнаму пакупніку. Зараз карціна знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.




Спадзяёмся, затрыманыя злодзеі не кінуць сваю прагу да прыгажосці. Хто ведае, якія далягляды нашай сінявокай ім адкрыюцца з вокнаў турмы.

## Правільны дыягназ

Адна жыхарка Гродна праходзіла абследаванне ў паліклініцы, а пасля здачы аналізаў пайшла на прыём да загадчыцы. Хацела пачуць дыягназ ад кваліфікаванага спецыяліста. Дакладна невядома, што так раззлавала пацыенку, якія словы ёй не спадабаліся, але яна нанесла ўрачу адзін удар рукой і два ўдары медыцынскай картай па галаве. У выніку загадчыца атрымала лёгкія цялесныя пашкоджанні ў выглядзе ранкі і кровападцёку левай скроневай вобласці.

А дыягназ у жанчыны быў вельмі просты — злосці поўныя косці! Ды па нашым заканадаўстве за такую праяву «хваробы» яна можа заплаціць штраф ці нават пазбавіцца волі тэрмінам на пяць гадоў.

## Здзяцініўся

Існуе думка, што любы дарослы мужчына ўсё роўна ў глыбіні душы застаецца маленькім хлопчыкам. З дзіцячым запалам можа і з канструктарам пагуляць, і ў хованкі, і ў даганялкі, і тайна будзе марыць пра верталёт на пульце кіравання.

Гэта пацвярджае выпадак, які здарыўся ў мінскім Футбольным манежы на праспекце Пераможцаў. Аднаму з удзельнікаў дзіцяча-юнацкага турніру DinamoCup маці падарыла цудоўны і зусім не танны футбольны мяч. Дзіця яго не выпускала з рук, але калі пачаўся матч, пакінула ў куце. Пасля заканчэння спаборніцтва падарунак знік...

Камеры відэаназірання выявілі, хто ўкраў мяч. Добра апрануты мужчына натыкнуўся на спартыўны снарад, пакруціў яго ў руках, падкінуў некалькі разоў, а потым схаваў пад швэдар ды накіраваўся да выхаду. Цікава, але праз некалькі дзён пасля гэтага здарэння падобны па апісанні злодзей сцягнуў мяч ужо на іншым дзіцячым спартыўным турніры.

Зараз мужчыну шукае міліцыя. Шкада, што яго ў дзяцінстве не навучылі: браць чужое нельга...




Пётр КОЗІЧ.




Алег ПАПОЎ.




## Мужчынскі грып

Вясна, ты хварэеш, і я
Вяду сваю вахту строга:
І каву ў ложак, і аспірын –
Усё на карысць нямоглага.

Амаль трыццаць сем – які жар!
І ў носе сабраліся «слізкі»...
Страшнейшы за Эбалу ён,
Нягодны грып мужчынскі.

Пад коўдру залез, нібы ў танк,
Не выйдзеш адтуль аж да лета.
Схаваўся вось так ад турбот
Пацыент, капрызулька гэткі.

Тут уратаванне – званок.
Я, радасная, адным скокам
З палону таблетак, хвароб
Збіраюся ў трэнажорку.

Ускочыў адразу і прынц,
Забыўся на тэмпературу.
Прэч, кашаль, лянота – прэч!
Найлепшы ўрач – фізкультура!

**Кацярына ШЧАСНАЯ,**
*г. Мінск.*




## Назад у маладосць

*З натуры*

У нядзелю я з'ездзіла на дачу, каб навесці парадак у шафе, якая з-за мноства адзення ўжо ледзь зачынялася. Гэта справа заняла шмат часу, бо кожная блузка, кожная спадніца захоўвалі ў сабе шэраг успамінаў. Адзежы за жыццё назбіралася нямала – хоць свой «Сэканд хэнд» рабі. Прыпомніўшы крылаты выраз «Усё новае – гэта добра забытае старое», я выбрала сабе гарнітур са штанамі. Мне спадабаўся і фасон, і шарсцяная чорная тканіна ў дробны рубчык – у гэтым сезоне модна.

Раніцай панядзелка я доўга круцілася ля трэльяжа, разглядваючы сябе ў «новым» гарнітуры з усіх бакоў, і, у рэшце рэшт, задаволеная адправілася на працу. Да аўтобуснага прыпынку я не ішла, а, можна сказаць, ляцела. Убор цудоўным чынам вярнуў мне адчуванне маладосці.

У гарадскім аўтобусе насупраць мяне сядзела пажылая жанчына з маленькай унучкай. Некалькі прыпынкаў яна па-дзіцячы, не саромеючыся, часта паглядала то на мяне, то на мае штаны.

– Бабуля, глядзі, у цёці такія ж самыя штаны, як і ў цябе, – заўважыла малая.

Бабуля кінула на мяне позірк, усміхнулася і адказала:

– Так, – і ціха, але, каб пачула і я, са спагадай у голасе дадала, – у іх я адчуваю сябе, як у маладосці.

**Даслала**
**Наталля ШАСТАКОВА,**
*г. Гомель.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Леў КАЗЛОЎ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Лыжня

Выпаў снег бялюткі, чысты,
Ён лятае, быццам пух.
Дзень прыгожы, прамяністы...
Глянь наўкол – займае дух!

Лес прыбраўся, як на свята.
Кліча нас з табой лыжня.
Досыць сагравала хата –
Надакучыла яна!

Мы да вечара кружылі
Паміж сосен і ялін
І пра час зусім забылі:
Эх, яшчэ хоць пяць хвілін!

Намачылі рукавіцы,
Снег патрапіў за каўнер.
А лыжня ляціць, імчыцца –
За сабою нас заве!

*г. Барысаў.*





## Мае лекі

Нібы галодны чорны злыдзень,
Прабег па мне мінулы тыдзень.
Такі стварыў ён інцыдэнт:
Маю душу змясіў ушчэнт.
Адно ратуе, што субота –
Не трэба сёння на работу.
Вазьму аловак і паперу
І выйду хуценька з кватэры.
Лячыцца буду ў ціхім парку
Радком гаючым, як прыпаркай.

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*

## Адбіла ахвоту

Міхась хаваў ад жонкі вочы,
Бо да жанчын ён быў ахвочы.
І вось аднойчы не ўтрымаўся
Ды да кумы пазаляцаўся:
– На вёсцы – першая красуня!
Прыходзь жа вечарам у пуню,
Калі сцямнее, менш народу.
Кума дала адразу згоду.
З усмешкай крочыла дадому,
Сустрэла жонку Міхасёву:
– Навіны маю – свет не бачыў:
Спатканне Мішка мне прызначыў!
Ты не хвалюйся, Ганна, дужа,
Замест мяне ідзі да мужа.
Прыгладзіў памаўзлівец вус,
Ўзяў саланіны ладны кус,
Каб той няхітры падарунак
Ўраз абмяняць на пацалунак.
Змяніла ноч паволі вечар,
Прыйшоў Міхаська на сустрэчу.
«Кума» ахвотна цалавала,
Ды нават слова не сказала.
Міхась заснуў, пайшла каханка...
Вярнуўся муж дадому ранкам.
Ці ж будзе тая ноч забыта!
Зайшоў у хату – стол накрыты:
І сала поўная талерка,
І першаку стаіць бутэлька.
– Хачу, Ганулечка, спытаць,
А што мы будзем святкаваць?
– Ды проста сёння ноччу, мілы,
У пуні сала зарабіла.
Ніколі я з табой, дарэчы,
Не спала так па-чалавечы!
...І плакаў Міша, і смяяўся –
Больш да кумы не заляцаўся.

**Антаніна РЫБАЛКА,**
*Петрыкаўскі раён,*
*п. Муляраўка.*






**Міхаіл УЛАСЕНКА**

## Сабачка «Гаў»

Я сабачку маляваў,
Ён каля мяне скакаў.
Нецярплівы – гаў ды гаў:
Маляваць перашкаджаў.

Падышла сястра Анжэла,
Яна булку з маслам ела.
А сабачка – гаў ды гаў:
Пачастунак вымагаў.

А ў нядзелю мы гулялі,
Ў лесе ягады збіралі.
Наш сабачка – гаў ды гаў:
Ад ваўкоў аберагаў.

Вось такі сабачка наш,
Бегае са мной на пляж.
Каб ён слухаў, не ўцякаў,
Мы яго назвалі «Гаў».

Смачна костачкі грызе,
З ім гуляем па чарзе.
А задумае ўцякаць –
Пачынаем ўсе крычаць:
– Гаў!
– Гаў!
– Гаў!

*г. Горкі.*



**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Два мурлыкі

Мур ды мур,
Мур ды мур –
З коцікам гуляў Артур.
Вы не ўцяміце ніколі,
Хто з дваіх іх
Муркаў болей.

## Дзік

Шышкі еў у лесе дзік
І скалоў сабе язык.
Не было б тае бяды,
Калі б еў ён жалуды.

## Ці таўкуць мак камары?

Чулі мы, нібы ў бары
Патаўклі мак камары.
А ці знае хто, што мак
Камарам зусім не ў смак?

Калі ж праўда гэта так –
Ім таўчы не трэба мак.

## Кірыла і мыла

Змыліў брус вялікі мыла,
Рукі мыў, жывот і твар.
І цяпер няўцям Кірылу:
А куды прапаў загар?

## Еду я да дзеда

Я да дзеда ў вёску еду,
Цэлы тыдзень буду ў дзеда.
Мама кажа, што з катом
Перавернем мы ўвесь дом.
Толькі як мы зробім гэта,
Калі дом вялікі ў дзеда?
Дык няўжо вялікі дом
Перавернем мы з катом?

*г. Мінск*




Наталля КАБЯКОВА.

## Яніна ЖАБКО

### Разумны пеўнік

Госця з лесу завітала
Ў вёску, дзе курэй нямала.
Надта ж хочацца лісіцы
Смачным мясам пажывіцца.
Пеўнік гвалту нарабіў,
Бабу з дзедам разбудзіў.
Рыжая за ўсе даўгі
Паспытала качаргі.

*г. Мінск.*




### Цімохава жыццё

Кот Цімох сягоння рана
З малака злізаў смятану.
Пацягнуўся без турбот,
Вымыў лапкі, хвост, жывот,
Пад кустом пасля прысеў,
Каб паслухаць птушак спеў.
Сонца стала прыпякаць –
Хочацца кату паспаць.
Пасвіць сон яго ўвесь дзень,
Ходзіць побач, нібы цень.
Вось такая любата –
Жыццё нашага ката:
Смачна есці, потым спаць...
А каму ж мышэй ганяць?

## У нас у гасцях

# бярозка

### Анекдоцікі

Настаўніца прыйшла дадому да вучня, які кепска вучыцца, і пытаецца ў яго:

– Мама дома?

– Яшчэ з работы не прыйшла, – адказвае той.

– А тата?

– Таксама ад вас схаваўся, – спакойна адказвае хлопчык.

* * *

З размовы двух сяброў:

– Ведаеш, што самае крыўднае, калі гатуеш пельмені?

– Яны разварваюцца ды развальваюцца?

– Ды не! Крыўдна, калі вада ўскіпела, ты адчыняеш лядоўню, а пельменяў там і няма!

* * *

– У вас ёсць рэкамендацыі з ранейшага месца працы?

– Так! Мне парэкамендавалі пашукаць сабе іншую работу...

* * *

У заапарку:

– Мама, купі мне слана!

– А чым жа мы яго, сынку, карміць будзем?

– Ды нічым! Тут жа напісана: «Карміць слана строга забараняецца».

### Пытанні для знаходлівых

1. Чаму людзі купляюць абутак?

2. Адзін гаворыць, двое глядзяць, двое слухаюць. Што гэта?

3. Адзін кажа: «Паляжым», другі кажа: «Пабяжым», трэці кажа: «Пахістаемся ды на месцы застанемся». Што гэта?

**Адказы на пытанні:**

1. Таму, што бясплатна ім яго ніхто не дасць.
2. Язык, вочы, вушы.
3. Снег, вада, трава.

# Не горшая за іншых

*Гумарэска*

Усё ладзілася ў сям'і Паўла і Юлі. Мелі добрую працу, кватэру ў горадзе атрымалі, двое сыночкаў падрастала. Ды на табе! Свякроў вырашыла да іх пераехаць. І пачалося: «Юля, падай! Юля, прынясі!» Як ні старалася нявестка дагадзіць, мужава маці толькі незадаволена зыркала ды нешта бубнела сабе пад нос.

Купіла неяк Юля прыгожыя боты на высокіх абцасах, такія, што носяць толькі па святах. І, каб зберагчы нятанны набытак, схавала. А потым дастала іх аднойчы, бачыць — абцасы пакрывіліся! Пачала Юля на сыноў лаяцца, бо падумала, што гэта іхняя праца. А тыя адмаўляюцца і кажуць:

— Дык гэта бабуля боты абувала.

— Як? — здзівілася Юля.

Свякроўцы стукнула ўжо восемдзесят тры гады, ды і памер нагі ў яе быў трыццаць сёмы, а ў Юлі — сорак першы.

— Бабуля ў тапках улезла ў боты ды гуляла ў іх па хаце, — амаль у адзін голас адказалі хлопчыкі.

Юлька не паверыла. Але праз некаторы час вярнулася раней з працы дамоў і аслупянела: ледзь-ледзь трымаючыся на нагах, хістаючыся з боку на бок, свякроў хадзіла па пакоі ў тых самых ботах.

— А купіце і мне такія чобаты! — папрасіла яна, заўважыўшы ў дзвярах нявестку.

— Ды што вы, мама? — акруглiла вочы Юля. — Навошта?

— Хачу, ды ўсё! — не супакойвалася свякроў.

І пачала кожны дзень Юлі пра «чобаты на абцасах» нагадваць. Нарэшце тая здалася.

У абутковай краме прадаўшчыцы з усіх бакоў абступілі бабулю, дэманструючы ёй тавар.

— Вось, глядзіце, якія цудоўныя боцікі! Лямцавыя, цёпленькія, мякенькія! — казала адна.

— А ёсць і замшавыя, лёгенькія! — паказвала другая.

Аднак старая стаяла на сваім:

— Хачу чобаты на высокіх абцасах!

Вакол сабраўся цэлы натоўп прадаўцоў і пакупнікоў. Не кожны дзень такія спектаклі бываюць!

Можа, гадзіну выбірала «модніца» боты. Спынілася на тых, што былі з самымі высачэннымі абцасамі. Неяк абулася яна з дапамогай Юлі і прадаўшчыцы. Стаіць, гайдаецца, за жанчын учапілася, бо ногі не трымаюць. У натоўпе за жываты схапіліся, смяюцца. А свякроўка задаволена ўсміхнулася і кажа:

— Во! Цяпер і я не горш за іншых!..

**Галіна ГУЗЯНКОВА,**
*г. Гомель.*




### Паскардзіўся

Спаткаліся двое сяброў, якія разам служылі ў войску.

— Ну, што ў цябе новага, дружа?

— Ды вось, ажаніўся нядаўна

— І як, усё ў парадку? Не скардзішся?

— Не.

— Тады адкуль сіняк пад вокам?

— А гэта як скардзіўся...

### Яшчэ ніжэй

Першая шлюбная ноч. Малады асцярожна кладзе далонь на жывот каханай, пагладжвае і пявучым голасам шэпча:

— Ой, кахаю цябе, прыгажунька мая!

— Калі ласка, можна ніжэй... — просіць тая.

Муж не губляецца і паўтарае фразу гучным басам:

— Ой, кахаю цябе, прыгажунька мая!..




### Купальнік

Сустрэліся два прыяцелі:

— Чаму ты такі заклапочаны? — пытае адзін другога.

— Ды вось, дачку ў міліцыю забралі... — сумна адказвае той.

— За што?

— Купальнік у басейне насіла не па правілах.

— І як жа яна яго насіла?

— У руках...

**Падслухаў Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*

## Мяса без касцей

Размова на рынку:

– Чаму ў вашай бараніне так шмат касцей? – пацікавіўся пакупнік.

– А дзе гэта вы бачылі, каб мяса без касцей вырастала? – парыраваў прадавец.



## Не даў закурыць

– Гэй, ты, казёл, дай закурыць! – крычыць адзін.

– А хіба казлы кураць? – пытае другі.

## Цяжкі чалавек

– Вой, ну і цяжкі ж ты чалавек! – кажа жонка мужу. – Як з табой жыць?

– Скуль ты гэта ўзяла? – здзівіўся той. – Хіба ўзважвала мяне?

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Алег ГУЦОЛ.

## Дранікі для кума

Адбылося ўсё ў нядзелю.
Не прыбраўшы і пасцелі,
Згаладаўшыся з начы,
Стала дранікі пячы.
На патэльню іх паклала,
Скварак дадала нямала,
Зверху паліла смятанай –
Вось сняданак мой духмяны.
Смачна так казыча нос...
Тут кагосьці чорт прынёс.
Адчыніўшы дзверы смела,
Ледзьве, людцы, не самлела.
На парозе – мой кумок,
Няхай трасца яму ў бок!
– Добрай раніцы, кума!
Жонкі тут маёй няма?
Засланяю стол плячыма,
А ён зыркае вачыма,
Сваім носам доўгім водзіць,
Хоча дранікаў, дый годзе!
– Сабралася, кумка, есці?
Можна мне за стол прысесці?
– Не накормлены Параскай?
Ну, частуйся, калі ласка!
Я на кума пазіраю,
Мо з галоднага ён краю,
Нечаканы гэты госць?
У самога ж бульба ёсць.
Ці лянівая Параска
Мужа корміць толькі ласкай?
Дзесь бадзяецца сама,
А яго частуй кума.
Грэцца ж ночку – ёй адной,
Не падзеліцца з кумой!
Госць патэльню змалаціў
І дабаўкі папрасіў.
Кажа: «Дзякую, кума.
А больш дранікаў няма?»
– Ці ж табе патэльні мала?
Я дык не пакаштавала!
– Ці ты, кумачка, здурнела?
Думаў, ты даўно пад'ела.
Забягай да нас у госці,
Калі трэба будзе штосьці...
І падаўся на парог.
Здзекуецца, далібог!
Тут патэльню я схапіла,
Добра госця адхадзіла.
– Разабраўся ў смачнай страве,
А які ты ў іншай справе?
Хоць брыкайся, хоць гарцуй,
За сняданак адпрацуй!
...Не заходзіць болей штосьці
З той пары мой кум у госці.

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

# Прыпеўкі

Выйшла з фермы за вароты,
Спатыкнулася аб боты.
Глянула – ляжыць мой мілы,
Абдымае моцна вілы.

* * *

Пра калгасы точаць лясы,
Нібы хочуць разагнаць.
Мы тады замест каўбасаў
Будзем «снікерсы» глытаць.

* * *

Сонца зранку грэе гоні,
Дзень вясновы на двары.
Запрагаюць хлопцы коней –
Без саляркі трактары!

* * *

Пакуль я была дзяўчынай,
Дарыў ружы з магазіна.
А як толькі стала жонкай,
Дык забыў і пра рамонкі.

* * *

Ой, каліна, ой, маліна,
Закахалася дзяўчына!
Закахалася ў Сямёна,
Толькі той зусім зялёны...

**Праспяваў Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

Кум казаў мне: «Ажанюся
Я з табой праз месяц, Люся».
Май прайшоў і красавік,
Балбатун кудысьці знік.

* * *

Не пралажу я у дзверы,
Таліі не маецца.
Пры харошым кавалеры,
Можа, пахудаецца?

* * *

О-хо-хо ды у-ха-ха,
Час ляціць, не спыніцца.
Як дадуць мне жаніха –
Тры дзясяткі скінецца!

* * *

У міленачка майго
Новая з'явілася.
Колькі іх было ўсяго,
Я лічыць стамілася.

* * *

Не было б жанчын на свеце,
Не было б каму трашчаць,
Не было б дзяўчат на свеце,
Не было б каго кахаць!

* * *

Я вярчуся і скачу,
І спяваю звонка.
Сала з бульбай не хачу –
Дайце мне міленка!

* * *

Я гуляла з Цімафеем,
Думала, што пахудзею.
Выйшла ўсё наадварот:
Папраўляецца жывот.

* * *

Угару я кепска рос
І малым застаўся.
На паўметра недарос
Ды на метр стаптаўся!

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Анастасія СКАРКО.

## Галерэя

**не старэе**




Алег ПАПОЎ, 1998 г.




Юрый РЫЖЫКАЎ, 1995 г.




Юрый РЫЖЫКАЎ, 1995 г.




Алег ШАВЕЛЬ, 1991 г.




Алег ПАПОЎ, 1991 г.

# Знарок не прыдумаеш

«Уся яе фігура нібы казала, што яна слухае не толькі вушамі, але і вачыма».

«Глыбока ў ягоных грудзях яна пачула смех».




«Дзве радзімыя плямачкі каля дзявочай скроні весела скокнулі ўбок».

« — Кахаю — прашаптала яна. — У адказ ён працягнуў ёй кавалак курыцы».



«Ёй паднеслі бакал з віном, яму — чарку гарэлкі з гарэлкай».

«Апрануўшы кашулю і прыгожыя штаны з расшпіленым каўняром, ён выйшаў з дому».



«Ён цалаваў ёй то калені, то спіну, то патыліцу».

« — Пэўна, ты стаміўся ў дарозе? — сказала яна з клопатам. — Чаму б табе не прагуляцца?»

«Пры кожнай сустрэчы яна выгрызала яму сэрца».

«У ягоных бліскучых мазгах заўсёды нешта закіпала».

«Ён павярнуў твар да яе, але цела яго так і не павярнулася».

*(З жаночых раманаў.)*

**Сабрала Яна ВЕРАБЕЙ,**
*г. Ліда.*

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 2 (1541), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 03.02.2017. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,53. Тыраж 947 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# У свеце жанчын для усмешак шмат прычын!



Пётр КОЗІЧ.




Тамара РАДАВАНАВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Андрэй ЖАЛЯЗКА і Андрэй СІДАРЭЙКА.

## Вожыкаўскі плакат

Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



На радасць і сабе і блізкім
Аформіць не забудзь падпіску!



